# ПЕСНЯ
## АБ РАДЗІМЕ І ПРАВАДЫРУ

Беларуская краіна,
Твой шырокі шлях!
Над табой у зорнай сіні
Палымнее сцяг.

Гэта ты упартай воляй
На прастор і шыр
Вывеў нас з былой няволі,
Мудры правадыр.

І цвіце мой край чароўных
Пушчаў і азёр
У сям'і свабодных, роўных
Маладых сясцёр.

Гэта ты рукою дужай
Даў народам мір,
Нас навек з'яднаўшы дружбай,
Мудры правадыр.

І ніякія напасці
Ў самы трудны час
Не парушаць долі-шчасця,
Не падзеляць нас.

Мы ідзем адной калонай,
Бурнаю, што вір,
Пад зарой твайго закона,
Мудры правадыр.

І, сабраўшыся на першы
Незвычайны сход,
У Совет сыноў найлепшых
Выбера народ.

Ты да новай перамогі
На прастор і шыр
Нам паказваеш дарогі,
Мудры правадыр.

(Урывак з верша „Радзіме
і правадыру").









Першыя дэпутаты
Вярхоўнага Совета
БССР
















*Апавяданне А. ЯКІМОВІЧА*

*Малюнкі А. ЦІХАНОВІЧА*

Трое пастушкоў пасвілі кароў на беразе рэчкі. Яны плялі ракітавыя кошыкі і гутарылі між сабою. Старэйшы з пастушкоў Юзік дапытваўся ў меншага Воліся, ці пайшоў-бы ён на вайну.

— Не ведаю...—нерашуча адказваў Воліська.—Калі-б мама пусціла...

— Твая мама не пусціць. Ого!—ківаў галавою трэці пастушок Міхалка, запраўляючы тонкую спіцу.

— А без мамы?—не адставаў Юзік, які заўсёды толькі і гаварыў пра вайну.

— Не ведаю... Можа-б...

— А я пайшоў-бы!—з гонарам перавагі над таварышам хваліўся ён.

— Дык чаму не ідзеш?—злавіў яго на слове Волісь.

— А хто возьме такога?—Юзік задумаўся.—Эх, каб гадкоў з пяць яшчэ—пайшоў-бы! Добравольцам! На вараным жарабцы ездзіў-бы, як дзядзька Максім—з пікай, з шашкай і з рывальвертам[1] пры боку. Калоў і сек-бы паноў тоўстапузых...

[1] Рэвольвер—Юзік няправільна вымаўляе гэтае слова.

— І не баяўся-б?—перапыніў яго Волісь.

— А чаго баяцца? Я чуў—Максім расказваў, як ён з іхнім панскім генералам з'ехаўся...

— Страшна, мусіць?..—падсунуўся бліжэй да расказчыка Волісь.

— Чаго?—спаважна адказваў Юзік.—Генерал, кажа, запсякрэвіў на яго і нацэліўся з рывальверта. А Максім яму шашкай па руцэ—трах! А потым яшчэ па галаве—тут яму і капут!..

Юзік з такім захапленнем апавядаў пра здарэнне з дзядзькам Максімам, што, здавалася, усё гэта было з ім самім. Ён павышаў голас, размахваў рукамі, паказваў, як нацэліўся генерал на Максіма і як Максім трахнуў яму шашкай па руцэ, а потым—па галаве.

Раптам недзе зусім блізка грукнуў гарматны стрэл. Пастушкі спалохана пераглянуліся.

— З гарматы бабахнулі,—сказаў Міхалка.

— Блізка як,—амаль шэптам дадаў Во-

лісь.—Учора яшчэ толькі гуло, як пад зямлёю.

— Мусіць, нашы адступаюць,—з трывогай у голасе прагаварыў Юзік.—Эх, каб у чырвоных было гэтулькі гармат і зброі, як у белых!

— А ў белых адкуль гарматы?—запытаўся Міхалка.

— Ім буржуі даюць. Тата казаў: чатырнаццаць буржуйскіх дзяржаў ваюе супроць нас.

— Аж чатырнаццаць дзяржаў!

— Каб адзін на адзін,—даўно-б панам капут. Але ім і так будзе капут. Нашы пераможуць. Чырвонай арміі дапамагаюць партызаны і ўвесь народ. Тата кажа: дзе толькі белым удаецца захапіць нашу зямлю—там адразу растуць партызанскія атрады. Вось белякам і крута прыходзіцца... Спераду—чырвоныя, а ззаду—партызаны. Нябось, доўга не наваююць. І гарматы буржуйскія не памогуць...

Юзікаву прамову спыніў вінтовачны стрэл у кустах.

— Чалавек сюды бяжыць,—першы ўбачыў Міхалка.

— Мусіць, у яго стралялі?

— Браткі, — усхапіўся Юзік, — гэта-ж дзядзька Клімовіч, старшыня рэўкома!

З боку кустоў паўз рэчку проста на хлопцаў бег чалавек. Каля пастушкоў ён прыпыніўся і аглянуўся назад, цяжка дыхаючы.

— Дзядзька Клімовіч, куды вы?—спытаўся Юзік.

— За мною пагоня белапалякаў,—хутка прагаварыў дзядзька Клімовіч, аглядваючыся ў бок кустоў.—Скажыце, рэбяткі, ім, што я пабег далей. А я, тымчасам, тут у сітняку, у рэчцы перачакаю... Добра?

— Хутчэй, хутчэй! Мы скажам,—замахаў рукою Юзік.

Толькі дзядзька Клімовіч паспеў ускочыць у сітняк, як з кустоў паказаліся два белапалякі з вінтоўкамі ў руках. Убачыўшы пастушкоў, яны таксама кінуліся да іх.

— Гэй, шчаняты! Большэвіка тут не бачылі?—закрычаў адзін з іх, што дабег першым.

— Каго?—нібы нічога не ведаючы, спакойна перапытаў Юзік.

— Большэвіка, псякрэў!—ужо ледзь не зароў белапаляк ад злосці.

— Вунь туды пабег нехта, а хто—большэвік ці не—не ведаем,—упэўнена супакоіў яго Юзік.

— Не маніш, холера!—падскочыў і другі белапаляк.

— Берагам пабег,—пацвердзіў і Міхалка.

— Ну, калі што—пастраляем! Псякрэў!

— Навошта нас страляць? Мы вам нічога не зрабілі,—сказаў Юзік.

— Мільч!—белапаляк замахнуўся і хвастануў Юзіка бізуном.

— Кінь, Бронэк! Бяжым! А то з-за іх большэвік уцячэ,—умяшаўся другі белапаляк, і яны пабеглі берагам далей.

— Ну, паны чортавы!—пагразіўся ўслед ім Юзік, трымаючыся за шчаку,—яшчэ паглядзім, хто каго пастраляе! Дзядзька Клімовіч, вылазьце!

Клімовіч, увесь мокры, падышоў да хлапцоў.

— Малайцы!—ён шчыра пацісnуў пастушкам рукі.—Не падвялі. Дзякую, рэбяткі! А я ўжо чуць не папаўся...

— Як-жа гэта вы сюды?..—спытаўся Юзік.

— Белапалякі неспадзявана нарваліся на мястэчка. Я ўцякаў на кані. Усе патроны выпусціў, а яны—не адстаюць. Мусіць, нехта сказаў, хто я такі. Ну, пад'ехаў да балота, кінуў каня ды ў кусты. І яны за мною! Гэта што—ударылі цябе?

— Глупства,—адказаў Юзік тонам дарослага.—Не паспеў адскочыцца...

У дзядзькі Клімовіча твар успыхнуў чырванню.

— Звяр'ё—не людзі! Дзяцей біць! Ну,



нічога, сынку, пацярпі. Доўга яны не нагуляюць у нас,—суцяшаў ён Юзіка.—Вось што, рэбяткі: мне аставацца тут нельга, але ў мяне ёсць для вас адно вельмі важнае даручэнне. Выканаеце?

Клімовіч уважліва глядзеў у вочы старэйшаму пастушку Юзіку.

— Што вы, дзядзька Клімовіч, не верыце нам?—ледзь не з крыўдай адказаў Юзік.

— Бачу, што вам можна верыць, таму і хачу даць такое даручэнне.

— Ды мы дальбог...—горача сказаў Міхалка.

— Мы ўсё зробім для вас,—прасіўся Юзік.

— Дык вось што, рэбяткі: хто-небудзь збегайце ў мястэчка, знайдзіце каваля Хацкеля і скажыце, што я буду чакаць яго ў пушчы каля возера.

— Я ведаю каваля Хацкеля,—радасна сказаў Юзік.

— Дык мо' ты і збегай. А то ўдвух, каб весялей было. Вы малыя, вас ніхто не затрымае.

— Хадзем, Міхалка! А ты, Воліcь, папасві адзін. Да вечара вернемся.

— Добра,—неахвотна згадзіўся Воліcь. Яму таксама хацелася пабегчы ў мястэчка.

— Ну, бяжыце, рэбяткі, шчаслівай вам дарогі! Прагонім белапалякаў, прыеду да вас з гасцінцамі.

Клімовіч пералез рэчку ўброд і падаўся у бок пушчы. Юзік з Міхалкам яшчэ нейкі час глядзелі яму ўслед, а потым весела пабеглі берагам—выконваць даручэнне старшыні рэўкома.

* * *

Праз некаторы час пастушкі зноў сустрэліся з Клімовічам.

Разбітыя Чырвонай арміяй, белапалякі кулём каціліся да Варшавы. Па дарозе з-за кожнага дрэва і куста на іх глядзелі дулы партызанскіх вінтовак і рэвальвераў.

Аднойчы, пасучы кароў на тым-жа беразе рэчкі, пастушкі ўбачылі, як з іхняга сяла, нібы шалёныя, імчаліся белапалякі. За імі чуваць былі стрэлы. Зацікаўленыя пастушкі не сцярпелі і цішком кустамі падбеглі да дарогі, каб разгледзець ясней, што там робіцца. Вось у гэты час яны і ўбачылі дзядзьку Клімовіча. Ён бег па слядах белапалякаў, часта прысядаў на калена і страляў. За ім бегла шмат мужчын—увесь яго партызанскі атрад.

— Дзядзька Клімовіч!—радасна закрычаў Юзік.

Клімовіч на момант спыніўся.

— А, гэта вы! Старыя знаёмыя! Малайцы! Даручэнне выканалі. Дзякую! А гасцінцы потым прывязу. Цяпер няма калі... Вось бачыце!

І ён пабег наперад, расчырванелы, усхваляваны, гонячы перад сабою белапольскіх бандытаў.



# АДКУЛЬ ТЫ?

*Апавяданне Я. ТАЙЦА.*

Наша суседка, Мар'я Пятроўна, паехала ў водпуск у вёску—там у яе сваякі, у вёсцы. Паехала адна, а вярнулася з пляменніцай Тоняй. Поезд у Маскву прышоў позна ўначы, і Тоня нічога не бачыла і адразу лягла спаць.

А раніцой цётка Маша сказала:

—Я, Тонечка, іду на работу, а ты глядзі сядзі дома, нікуды не хадзі; у нас тут у двар́э хлапчукі азарнікі вялікія!

І пайшла.

Тоня вымыла шклянкі, падмяла і села да акна глядзець на Маскву. Але перад акном стаяў высокі белы дом і засланяў усю Маскву. Тады Тоня адзела хустку і цераз кухню вышла на двор. Які дзіўны двор: травы няма, зямля цвёрдая, з усіх бакоў высокія сцены і зверху маленькі кавалачак неба, нібы сіняя столь.

Рэбяты на дварэ гулялі ў „салкі", а калі



убачылі Тоню, абступілі яе і сталі разглядваць і распытваць.

— Ты чыя?—запытаўся адзін.

— Цёці Машы,—адказала Тоня.

— А як цябе завуць?—запытаўся другі.

— Тоня.

— А ты адкуль?—запытаўся трэці.

— А мы,—важна сказала Тоня,—з калгаса.

— Калгасніца, калгасніца!—закрычалі ўсе адразу.—Калгасніца, пачом малако?

Тоня моцна пакрыўдзілася і як тупне нагою:

— Што вы дражніцеся? А яшчэ гарадскія.

Яна махнула хусткай.

— Ну вас, азарнікі, горш вясковых!

— Ага, ты лаяцца! Добра, рэбяты,—сказаў Борка,—зараз я яе пасаджу!

Ён падышоў зусім блізка да Тоні.

— А ну, калгасніца, скажы вось, а трамваі там ёсць у вас?

Тоня маўчала.

— Няма,—ціха сказала яна потым,—трамваяў!

Усе зашумелі.

— Няма, няма!..

Тады Тоня здагадалася.

— А трактары,—запытала яна,—у вас ёсць?

Рэбяты прыціхлі: чаго няма, таго няма!

— Чакай,—крышку Борка,—а аўтобусы ў вас ёсць? Што!

Але Тоня зноў запытала:

— А грузавікі ў вас ёсць? У нас два, велізарныя!

Тут усе засмяяліся:

— Ну і запытала-ж! У нас іх тысячы!

— Ціха!—скамандаваў самы старэйшы, Петрык.—Я запытаю! А ну, калгасніца, а тралейбусы ёсць у вас?

Тоня села на ўсходку і склала рукі пад хусткай.

— А ў вас камбайны ёсць?

Вось яна якая, ніяк яе не перагаворыш!

— А ў нас матацыклетка ёсць!—пахваліўся Борка.

— А ў нас малатарня.

— А ў нас таксі, аўтамабілі!

— Ну, што-ж! А ў нас сявалкі, конныя граблі!

Нічога не маглі зрабіць рэбяты з Тоняй. Яны адышліся ў куток двара і сталі раіцца.

А Тоня спакойна сядзела на ўсходцы. Потым рэбяты вярнуліся.

— Хадзем з намі!

— Куды гэта?—запытала Тоня і пайшла.

Рэбяты павялі яе цераз завулак да таго высокага дома, які ўсю Маскву засланяў. А ўсярэдзіне там каменная лесніца, дзверы са званкамі, па кутках збаны для акуркаў.

— Не пабаішся паляцець,—сказаў Петрык,—дык мы цябе дражніць ніколі не будзем!—і адкрыў ніжнія дзверы.

Тоня ўбачыла маленькі пакойчык, падобны на клетку, і здзівілася: няўжо такія малюсенькія пакойчыкі бываюць?

— Куды паляцець?—запытала Тоня.

— Глядзі сюды,—сказаў Петрык.—Бачыш, кнопкі? Шостую кнопку націснеш і паляціш! Вунь туды,—паказаў ён,—на самы верх!

А Тоня ўжо чула пра пад'ёмныя машыны, ёй цётка Маша яшчэ ў вёсцы расказала, і яна не вельмі напалохалася.

Яна зайшла ў пакойчык і стала разглядваць на сцяне кнопкі. Раптам рэбяты захлопнулі за ёю дзверы.

— Пусціце!—закрычала Тоня.—Пусціце, я цётцы Машы скажу!

— Націсні, націсні шостую кнопку,—крычалі рэбяты праз рашотку,—прывыкай к Маскве!

Тоня ўзлавалася, паднялася на дыбачкі і як націсне на шостую кнопку—загуло, зашумела, і ўся клетка, разам з Тоняй, стала ціха падымацца.

— Паляцела, паляцела!—зашумелі рэбяты і з усіх ног кінуліся па лесніцы на шосты паверх сустракаць калгасніцу.

Рэбяты беглі хутка, але машына абагнала іх, і калі Петрык першы дабег да шостага паверха, машына была ўжо там, і Тоня штурхала цяжкія дзверы.

— Націсні на ручку, Тоня,—Петрык задыхаўся і не мог гаварыць,—яны адчыняцца. Націсні!

— Ведаю без цябе,—адказала Тоня, вышла з клеткі і, не гледзячы на рэбят, стала спускацца па лесніцы.

— Тонечка,—сказаў Борка,—напалохалася? Мы цябе дражніць не будзем, ты не бойся!

— Нічога я не напалохалася,—адказала Тоня.—Я калі на самалёце падымалася, страшней было! А гэта што!

— На самалёце?—ахнулі рэбяты і пабеглі за ёю.—На сапраўдным самалёце?!

— А то на якім-жа? Да нас у калгас прылятаў самалёт і катаў усіх—і старых і дзяцей, і я лятала! Вунь там—аж за хмарамі!

Рэбяты на ўсе вочы глядзелі на Тоню.

— Тонечка, раскажы! Тонечка!—прысталі да яе.

Яны вярнуліся ў двор, селі на ўсходкі, і Тоня пачала расказваць.

І адразу яна стала самай важнай фігурай у двары.



# АЛЯКСЕЙ МАКСІМАВІЧ ГОРКІ

Два гады таму назад, 18 чэрвеня, быў атручан ворагамі народа Аляксей Максімавіч Горкі, вялікі пісьменнік, друг Леніна і Сталіна. Імя Горкага было гразою для ўсіх ворагаў нашага народа. Але подлыя забойцы пралічыліся. Іх выкрылі і знішчылі, як шалёных сабак. Ворагам няма і не будзе месца на нашай совецкай зямлі!

М. ГОРКІ




# ПЕПЕ

Пепе—гадоў дзесяць. Ён кволы, тоненькі, быстры, як яшчарка, стракатыя лахманы матаюцца на вузкіх плячах, праз безлічныя дзіркі выглядвае скура, цёмная ад сонца і бруду.

Ён падобны на сухую былінку, — вее з мора і носіць яе, забаўляючыся ёю,—Пепе скача па каменнях вострава з усходу сонца да захаду, і штохвілінна адкуль-небудзь льецца яго нястомны галасок:

— Італія чароўная,
Італія мая!..

Яго ўсё цікавіць: кветкі, што густымі ручаямі цякуць па добрай зямлі, яшчаркі сярод лілаватых каменняў, птушкі ў чаканным лісці аліў, у малахітавым кружаве вінаградніку, рыбы ў цёмных садах на дне мора і фарэст'еры на вузкіх, заблытаных вуліцах горада; тоўсты немец з рассечаным шпагаю тварам, англічанін, заўсёды нагадваючы актора, які прывык іграць роль мізантропа, амерыканец, якому ўпарта, але без поспеху хочацца быць падобным на англічаніна, і неператмальны француз, шумны як бразготка.

— Які твар!—кажа Пепе таварышам, паказваючы ўсёбачнымі вачыма на немца, надзьмутага важнасцю да такой ступені, што ў яго валасы дубка стаяць.—Вось твар, не меншы за мой жывот!

Пепе не любіць немцаў, ён жыве ідэямі і настроямі вуліцы, плошчы і цёмных крамак, дзе свае людзі п'юць віно, гуляюць у карты і, чытаючы газеты, гавораць пра палітыку.

Мноства цікавых гісторый можна расказаць пра Пепе.

Аднаго разу якаясьці сіньёра даручыла яму занесці ў падарунак сяброўцы яе кошык яблык з свайго саду.

— Заробіш сальдо!—сказала яна.—Гэта не пашкодзіць табе...

Ён з ахвотай узяў кошык, паставіў яго на галаву сабе і пайшоў, а вярнуўся па сальдо толькі ўвечары.

— Ты не вельмі спяшаўся!—сказала яму жанчына.

— Ды ўсё-такі я змарыўся, дарагая сіньёра,—уздыхнуўшы, адказаў Пепе.—Іх-жа было больш дзесятка!

— У поўным да верху кошыку? Дзесятак яблыкаў?

— Хлапчукоў, сіньёра.

— Але—яблыкі?

— Спачатку—хлапчукі: Нікеле, Джовані...

Яна пачала злавацца, схапіла яго за плячо, страсанула.

— Адказвай, ты занёс яблыкі?

— Да плошчы, сіньёра! Вы паслухайце, як добра я трымаў сябе: спачатку я зусім не звяртаў увагі на іх насмешкі,—няхай думаю, яны параўноўваюць мяне з аслом, я ўсё сцярплю з павагі да сіньёры,—да вас, сіньёра. Але калі яны пачалі смяяцца з маёй маткі,—ага, падумаў я, ну, гэта вам не мінецца дарма. Тут я паставіў кошык і—трэба было бачыць, добрая сіньёра, як спрытна і трапна пападаў я ў гэтых разбойнікаў,—вы-б вельмі смяяліся!

— Яны расцягнулі мае плады!?—закрычала жанчына.

Пепе, сумна ўздыхнуўшы, сказаў:

— О, не. Але тыя плады, якія не папалі ў хлапчукоў, разбіліся аб сцяну, а рэшту мы з'елі пасля таго, як я перамог іх і памірыўся з ворагамі.

Жанчына доўга крычала, выкідваючы на голеную галаву Пепе ўсе праклёны, вядомыя ёй,—ён слухаў яе ўважліва і пакорна, час-ад-часу прышчоўкваючы языком, а іншы раз, з ціхаю згодаю, усклікваў:

— О-о, як сказана! Якія словы!

А калі яна, змарыўшыся, пайшла прэч ад яго, ён сказаў услед ёй:

— Але, дапраўды, вы не турбаваліся-б так, калі-б бачылі, як трапна пападаў я прыгожымі пладамі вашага саду ў брудныя галовы гэтых машэннікаў,—ах, калі-б вы бачылі гэта!—вы далі-б мне два сальдо, замест абяцанага аднаго!

Недалікатная жанчына не зразумела скромнай гордасці пераможца, яна толькі пагразіла яму кулаком.

Сястра Пепе, дзяўчынка намнога старэйшая, але не разумнейшая за яго, паступіла служанкаю—прыбіраць пакоі—на віллу багатага амерыканца. Яна адразу-ж стала чысценькай, румянай і, на добрых хлябах, пачала прыкметна налівацца здаровым сокам, як ігруша ў жніўні.

Брат спытаўся ў яе аднойчы:

— Ты ясі кожны дзень?

— Два і тры разы, калі хачу,—з гордасцю адказала яна.

— Пашкадавала-б зубы!—параіў ёй Пепе і задумаўся, а потым спытаўся зноў:

— Вельмі багаты твой гаспадар?

— Ён? Я думаю—багацей за караля!

— Ну, пакінем глупствы суседзям! А колькі штаноў у твайго гаспадара?

— Гэта цяжка сказаць.

— Дзесяць?

— Можа, і болей...

— Пайдзі, прынясі мне адны не вельмі доўгія і цёплыя,—сказаў Пепе.

— Навошта?

— Ты бачыш—якія ў мяне?

Бачыць гэта было цяжка,—ад штаноў Пепе на нагах у яго аставалася зусім мала.

— Але,—згадзілася сястра,—табе патрэбна адзецца! Але ён-жа можа падумаць, што мы ўкралі?



Пепе ўнушальна сказаў ёй:

— Не трэба лічыць людзей дурнейшымі за нас! Калі ад многага бяруць трошкі, гэта не кража, а проста дзяльба!

— Ды гэта песня!—не згаджалася сястра. Але Пепе хутка ўгаварыў яе, а калі яна прынесла ў кухню добрыя штаны светлашэрага колеру і яны аказаліся крыху даўжэйшымі за ўсё цела Пепе, ён зараз-жа здагадаўся, як трэба зрабіць.

— Дай нож!—сказаў ён.

Удваіх яны жыва ператварылі штаны амерыканца ў вельмі зручны касцюм для хлопчыка: атрымаўся некалькі шыракаваты, але ўтульны мяшок, ён прытрымліваўся на плячах вяровачкамі, іх можна было завязваць вакол шыі, а замест рукавоў служылі кішэні.

Яны зрабілі-б яшчэ лепш і зручней, але ім перашкодзіла ў гэтым жонка гаспадара штаноў; з'явілася ў кухню і пачала гаварыць самыя грубыя словы на ўсіх мовах аднолькава дрэнна, як гэта прынята амерыканцамі.

Пепе нічым не мог спыніць яе красамоўства, ён моршчыўся, прыкладваў руку да сэрца, хапаўся ў роспачы за галаву, зморана ўздыхаў, але яна не магла супакоіцца да таго часу, пакуль не прышоў яе муж.

— У чым справа?—запытаўся ён.

І тады Пепе сказаў:

— Сіньёр, мяне вельмі здзіўляе шум, узняты вашай сіньёрай, я нават некалькі пакрыўджаны за вас. Яна, як я зразумеў, думае, што мы сапсавалі штаны, але запэўняю вас, што для мяне яны добрыя. Яна, напэўна, думае, што я ўзяў апошнія вашы штаны і вы не можаце купіць другіх...

Амерыканец, спакойна выслухаўшы яго, заўважыў:



— А я думаю, малойчык, што патрэбна паклікаць паліцыю.

— Та-ак?—вельмі здзівіўся Пепе.—Навошта?

— Каб цябе забралі ў турму...

Гэта вельмі засмуціла Пепе. Ён ледзь не заплакаў, але стрымаўся і сказаў з гонарам:

— Калі гэта вам падабаецца, сіньёр, калі вы любіце саджаць людзей у турму, дык, канешне! Але я-б не зрабіў так, каб у мяне было шмат штаноў, а ў вас ні адной пары! Я-б даў вам дзве, бадай—тры пары нават; хоць тры пары штаноў нельга адзець адразу! Асабліва ў гарачы дзень...

Амерыканец рассмяяўся; іншы раз і багатаму бывае весела.

Пасля ён частаваў Пепе шакаладам і даў яму франк. Пепе паспрабаваў манету зубам і падзякаваў.

— Дзякую вам, сіньёр! Здаецца, манета сапраўдная.

**(Скарочана).**

# ДЗЕЦІ

*Апавяданне* *МАКСІМА ГОРКАГА*

Цяжка расказаць гэту маленькую гісторыю,—яна такая простая.

Калі я быў юнаком, дык па нядзелях— вясною і летам я збіраў дзяцей нашай вуліцы і зранку вёў іх у поле, лес: мне падабалася быць у дружбе з маленькімі людзьмі, вясёлымі, як птушкі.

Дзеці былі рады пакінуць пыльныя цесныя вуліцы горада; маткі забяспечвалі іх кавалкамі хлеба, я купляў што-небудзь смачнае, наліваў вялікую бутэльку квасу і, як пастух, ішоў ззаду бесклапотных ягнят горадам, полем, да зялёнага лесу, прыгожага і ласкавага ў вясновым уборы.

Мы амаль заўсёды выходзілі з горада раніцай, як званілі да ранняй абедні, нас суправаджалі гукі званоў і воблакі пылу, узнятыя быстрымі нагамі дзетвары.

У гарачы поўдзень, змарыўшыся ад гульні, мае таварышы збіраліся на ўскрайку лесу, пасля, перакусіўшы, меншыя спалі на траве ў цяньку арэшніку і каліны, а дзесяцігадовыя малайцы, цесна сабраўшыся вакол мяне, прасілі расказаць ім што-небудзь, і я расказваў ім штосьці, балакаючы гэтак-жа ахвотна, як яны самі балакалі са мной...

... Над намі—сіняе пакрывала вясновага неба, перад намі—у мудрым маўчанні багатае разналессе; прабяжыць вецер, праімчыцца ціхі шэпат, захвалююцца душыстыя цені лесу, і зноў спакойная цішыня песціць душу.

Белыя воблакі павольна плывуць у сіняве неба; з зямлі, нагрэтай сонцам, неба здаецца халодным, і дзіўна бачыць, што воблакі растаюць у ім.

Аднойчы, калі я выходзіў з горада ў поле з гуртам дзяцей, насустрач нам выскачыў нікому незнаёмы хлопчык - яўрэй, босы, у парванай рубашцы, чорнабрывы, тоненькі і кучаравы, як баранчык.

Быў ён нечым нездаволены і, відаць, нядаўна плакаў: павекі яго матава-чорных вачэй апухлі і пачырванелі, рэзка вылучаючыся на бледным да сінізны, галодным твары.

Наткнуўшыся на гурт дзяцей, ён спыніўся сярод дарогі, моцна ўпёрся нагамі ў прахладны раніцай пыл, цёмныя губы яго прыгожага рота спалохана адкрыліся,—у наступную секунду ён лёгкім скачком апынуўся на тратуары.

— Трымай яго!—закрычалі дзеці весела і дружна.

Я чакаў, што ён уцячэ,—яго худзенькі, з вялікімі вачыма твар выражаў страх, губы дрыжалі, ён стаяў у шуме насмешак і дзіўна выцягваўся, нібы вырастаў, прыціскаючыся да плота плячыма, схаваўшы рукі за спіну.

Але ён раптам сказаў вельмі спакойна, ясна і правільна:

— Хочаце, я вам фокусы пакажу?

Я зразумеў гэту прапанову, як спосаб самаабароны, а дзяцей яна адразу зацікавіла і адвяла ад яго; толькі найбольш дарослыя і грубыя глядзелі на маленькага яўрэя недаверліва і падазрона: наша вуліца адносілася варожа да дзяцей другіх вуліц, нашы хлапчукі былі цвёрда ўпэўнены ў нейкіх сваіх перавагах перад дзецьмі другіх вуліц і не любілі, не ўмелі заўважаць перавагі другіх дзяцей.

Маленькія аднесліся да гэтага прасцей.

— Паказвай!—закрычалі яны.

Прыгожы, тоненькі хлопчык адступіўся ад плота, выгнуў назад сваё худзенькае цела, крануўся рукамі зямлі і, ускінуўшы ногі, стаў на руках, крыкнуўшы:

— Гоп!

І закруціўся, як апечаны, лёгка і спрытна выробляючы сваім целам.

Праз дзіркі яго рубашкі і штонікаў прасвечвала шараватая скура худзенькага цела, вострымі вугламі высоўваліся косці лапатак, кален і локцяў, і ключыцы яго былі нібы цуглі.

Здавалася, што вось ён перагнецца яшчэ раз, і гэтыя тонкія костачкі хруснуць, ломячыся.

Ён стараўся да поту, рубашка на спіне яго прамокла; зрабіўшы які - небудзь фокус, ён заглядваў у твары дзяцей са знарочыстай мёртвай усмешкай, і непрыемна было бачыць яго матавыя вочы, расшыраныя нібы ад болю; яны дзіўна ўздрыгвалі, і шмат было ў іхнім поглядзе недзіцячага напружання. Хлапчукі заахвочвалі яго шумнымі ўсклікамі, шмат якія пераймалі ўжо яго фокусы, куляючыся ў пыле, падаючы, усхопліваючыся ад болю пры няспрытных рухах, ад няўдач, поспехаў і зайздрасці.

Але гэтыя вясёлыя хвіліны адразу зніклі, калі хлопчык, пакінуўшы свае практыкаванні ў спрытнасці, паглядзеў на дзяцей з лагоднай усмешкай вопытнага артыста і сказаў, выставіўшы тонкую руку:

— Цяпер—дайце мне што-небудзь!

Усе замоўклі, нехта спытаўся:

— Грошай?

— Але,—адказаў хлопчык.

— Бач які!

— Мы-б за грошы і самі здолелі...

Гэта просьба выклікала ў маленькай публікі варожыя і зняважлівыя адносіны да артыста, дзеці пайшлі далей з жартамі і лаянкай. Канешне, грошай ні ў каго з іх не было, а ў мяне—толькі 7 капеек. Я палажыў дзве манеткі на пыльную далонь, хлопчык паварушыў іх пальцамі і сказаў, прыемна ўсміхаючыся:

— Дзякую...

Ён пайшоў прэч, і я ўбачыў, што рубашка на яго спіне ўся ў цёмных плямах і прыліпла да лапатак.

— Пачакай, што гэта?

Ён спыніўся, адвярнуўся, уважліва паглядзеў на мяне і з такой-жа прыемнай усмешкай сказаў выразна:

— Гэта—на спіне? Гэта мы ўпалі з трапецыі ў балагане,—бацька ўсё яшчэ ляжыць, а я ўжо здаровы...

Я падняў рубашку—на скуры спіны з левага пляча ўніз і к боку ляжала шырокая цёмная ссадзіна; яна засохла тоўстым струпам, але ў час практыкаванняў струп лопнуў у некалькіх месцах, і цяпер з расколін сачылася яркачырвоная кроў.

— Зараз ужо не баліць,—сказаў ён усміхаючыся,—не баліць, а толькі свярбіць...

І мужна, як належыць герою, зірнуўшы ў вочы мне, ён гаварыў далей тонам сур'ёзнага дарослага чалавека:

— Думаеце, гэта я для сябе працаваў? Чэснае слова, не! Бацька... У нас няма ні кавалачка! А бацька так разбіўся! Ведаеце, прыходзіцца працаваць. А тут яшчэ—яўрэі мы, і ўсе з нас смяюцца... Бывайце...

Ён гаварыў з усмешкай, весела і бойка.

Кіўнуўшы мне кучаравай галавою, ён пайшоў вельмі хутка міма вачастых дамоў; яны глядзелі на яго шклянымі вачыма раўнадушна і мёртва.

---

Гэта так нязначна і проста—ці-ж няпраўда?

Але не раз у жыцці маім, у цяжкія дні яго, я з удзячнасцю ўспамінаў мужнасць хлопчыка...

*Гэта апавяданне напісана ў 1916 г.*



# КАЗКА ПРА ПАЛЯЎНІЧАГА ФЁДАРА

*Казка К. КРУЦІЛАВА і Я. АЎТУШКОВА.* *Малюнкі К. ГЕДДА.*

I

На Далёкім на Усходзе,
На совецкай на зямлі
Паляўнічыя жылі.

Тры браты жылі у згодзе;
Два старэйшых палявалі,
Дзіч усякую стралялі,
На лісіцу і ваўка
Хітра ставілі капкан,

Меткім стрэлам білі белак,
Што скакалі ў лапках елак,
А, бывала, што дамоў
Неслі дзікіх кабаноў.

Меншы брат меў дома справу—
Гатаваў старэйшым страву.
Зроду меў трынаццаць год,
Звалі Фёдарам яго.

Справы-ж той не так багата,
І, бывала, вечарком
Возьме стрэльбу і цішком
Ён адыйдзецца ад хаты.

Сумна Фёдару сядзець,
Хоча лесу паглядзець,
І страляць ён мог нядрэнна:
Да пляча прыжме прыклад
І не выпусціць дарэмна
Міма цэлі свой зарад.

Вось ён выказаў жаданне,
Каб пайсці на паляванне
Са старэйшымі братамі.

„Ты малы яшчэ, каб з намі
Ў лес хадзіць, звяроў страляць,
Трэба крыху пагуляць;
Часта мы, браток, і самі
Маем страх перад звярамі.
Там—не ў хаце, брат, сядзець—
Як сустрэнецца мядзведзь...

„Ну, страляй!..“ „А як прамажаш?
Сам тады касцямі ляжаш,
Пападзеш к яму ў бярлогу,“—
Гэтак страшылі малога
Ды прыгодамі пужалі,—
Яго смеласці не зналі.

Фёдар слухаў тыя словы,
Бы за праўду ўсё прыняў,

А ў самога ўжо гатова
Ўсё да заўтрашняга дня,

II

Ранне. Спяць яшчэ браты,
Рушыў Федзя ў лес густы.
Крочыць, дрэвы аглядае,
Кожны кусцік прымячае,
Пень ці выварат убачыць—
Хоць чым-небудзь ды адзначыць.
Гэтым шляхам будзе зноў
Ён варочацца дамоў.

Зварухнулася галіна,—
„Э, што-кольвечы павінна
Тут на дрэве гэтым быць"—
Думка ў Фёдара ўзнікае.
Стрэльбу хутка ён знімае
І уважліва глядзіць.
Бачыць, белка ля дупла
На галінку спрытна села,
Пазірае ў вочы смела
І размову пачала:

„Слухай, Фёдар, галубок,
Не страляй мяне, браток!
У мяне малыя дзеці,
Хто-ж тады будзе глядзець іх?
Разумееш сам—вясна,
Радасць нам нясе яна.







Вось у восеньскае ранне
Ты выходзь на паляванне."

Заўважае раптам Федзя
Касалапага мядзведзя.
Мішка крок свой прыпыніў,
Ды са страху забубніў:

„Слухай, Фёдар, галубок,
Не страляй мяне, браток,—
Мы цяпер, вясной, ліняем,
Поўсць усю як ёсць скідаем,

Наша шкура смеху варта,
Праўду я кажу—не жарты.
Вось у восеньскае ранне
Ты выходзь на паляванне."

Стрэльбу Фёдар апускае
І мядзведзя абмінае.
Так прайшоў ён шмат гадзін
Між дубоў і між хваін.
Шмат звяроў за дзень сустрэў,
З кожным гутарку ён меў,
Што патрэбна—забіваў,
Што не трэба—пакідаў.
Горда крочыў ён дахаты
Са здабычаю багатай.

III

Голле дрэў шуміць ад ветру,
Пах вясны нясе паветра,
Фёдар пушчаю густой
Вядзе брацціяў за сабой.

„Мо' вярнуліся-б назад?—
Кажа ўжо старэйшы брат,—
К ночы дома мы ці будзем,
Завядзеш, а як заблудзім?“

„Ну, а мы тут заначуем“—
Кажа Фёдар, бы не чуе
Страху ў голасе братоў—
Ён смяяцца з іх гатоў.

На сваіх нябачных крылах
Ноч зляцела і накрыла
Лес, паляны, паляўнічых.
Шмат настала таямнічых
Для братоў цяпер хвілін.
Толькі бачна між галін,
Зоркі ў небе як блішчаць.
Паляўнічыя сядзяць,
Ды гамоняць між сабой;

Раптам з цемені густой
Хруст і шорах данясліся,
Ўсе на ногі падняліся.

Фёдар кажа тут братам,
Што ідзе разведаць сам.

Адышоўшы колькі крокаў,
Ён пачуў, што недалёка
Не звяры ідуць, а людзі,
Зразумеў ён па гаворцы:
Гэта крадуцца японцы...
Запылалі гневам грудзі:

„Тут замежных шпікаў зграя!
Э, няхай-жа пачакае
Гэты злы японец крыху!“
І паўзе без шуму, ціха
Тым-жа шляхам ён назад.
Ціха шэпча: „Там атрад...
Пераходзіць праз граніцу...
Нам, браты, патрэбна біцца!“

А браты былі гатовы,
Не пярэчылі ні слова,
І як слаўныя героі
Па камандзе усе трое
Шротам буйным, нібы градам,
Сыпанулі па атраду.

У адказ спярша нясмела
Раздалося колькі стрэлаў.
Ахапіў японцаў страх,
Б'юць з вінтовак па кустах,
Ды як злыдні ні стралялі—
У братоў не пападалі.





IV

А было японцаў многа,
Цяжка брацццям без падмогі.
Фёдар стаў тут лес прасіць
Памагчы японцаў біць.

Разгуляўся вецер смела,
Страшна пушча зашумела,
У прасторы нёсся гул,
Дрэвы гнуліся ў дугу.

Біў японцаў лес шалёна,
Для братоў ён стаў заслонай.
Раптам дрэва затрашчала,
Нахілілася, упала,
І сваім ствалом, вяршынай
Шмат японцаў прыдушыла.
Як ні кінуцца японцы—
Б'юць галіны іх бясконца.

Хутка банда адступіла,
Пачала заходзіць з тыла.
Фёдар зноў узняў трывогу—
Звяроў кліча на падмогу,

А звяры блукалі недзе.
Як пачулі голас Федзі,
Што ёсць сілы ўсе імчацца,
Каб з японцамі змагацца.

Тут мядзведзю далі ходу,
Ён схапіў з зямлі калоду
Ды як кіне яе ў злосці—
У японцаў трашчаць косці.

Ўжо японцам крута стала—
Іх ваўкі куды папала
Валачылі па кустах,
Моцна сціснуўшы ў зубах.

Крыкі, гоман, трэск нясецца...
Ўжо на што кабан, здаецца,
І той ляскае зубамі,
Выскаляецца клыкамі,
На японцаў паглядае,
Страх на злыдняў наганяе.

Аглянуцца не давалі,
Безупынна іх клявалі
Птушкі дружна, як адна:
Не адзін ад іх сканаў.
Белкі шышкамі кідалі,
З дрэў атрад атакавалі,
Не давалі нават войкнуць.
Вожык лез таксама ў бойку...

V

Вось ўбачылі бандыты,
Што яны ушчэнт разбіты,
Што братоў ім не змагчы,
І памкнуліся ўцячы.

Але залп з другога боку
Іх спыніў на першым кроку—
Пагранічнікі якраз
Падаспелі ў гэты час.

І як гром над цёмным борам,
Пранясëся: „Рукі ўгору!“

Ўміг ракета, нібы сонца,
Асвяціла ўсіх японцаў.

Пралічыліся зладзеі!
Іх апошняя надзея
Пацярпела поўны крах:
Ўжо заняты зваротны шлях.

Яны зброю пакідалі,
Рукі ўгору ўсе паднялі,
А з таемнае засады
Ўміг байцы пагранатрада
Разам з слаўнымі братамі
Акружылі іх штыхамі.

Камандзір братоў хваліў:
„Як-жа вы утрох змаглі
Затрымаць такую зграю?“
Фёдар горда заяўляе:

„Мы не ўтрох—дапамагала
Ўся прырода нам нямала:
Бура, лес, звяры ўсе чыста
Бой вялі супроць фашыстаў“.



# ГНЯЗДО

Н. А. НЕКРАСАЎ

Ў буру навальнічную
Раз дрэва загарэлася,
На дрэве салаўінае
Гняздо ў галлі было.
Гарыць яно палаючы,
Гараць і птушанятачкі
Маленькія ў гняздзе:
„Ой, мамка, дзе ты дзелася?
Ты-б, мамка, нас папесціла,
Пакуль не апярымся мы:
Як крылцы адрастуць,
Тады ў гаі зялёныя
Мы самі паляцім!“
Згарэла дрэва начыста,
А з дрэвам птушанятачкі.
Тут маці к ім ляціць.
Ні дрэва... ні гнязда яе...
Ні птушанят няма!..
Рыдае, кліча, кружыцца,
Так хутка, хутка кружыцца,
Што крылейкі шумяць!..
Настала ноч, заціхла ўсё,
Адна рыдала птушачка,
Ды мёртвых не дазвалася
Да раніцы яна.

Пераклад А. Я.

# АПАВЯДАННІ ПРА ХАДЖУ НАСР-ЭД-ДЗІНА



Хаджа Наср-Эд-Дзін—любімы герой ўсходніх народных казак. Яго ведаюць і любяць усе народы бліжняга ўсходу: узбекі, таджыкі, армяне, грузіны, кабардзінцы, туркі, балгары, сербы і крымскія татары. У далёкім Іране, у спякотнай Аравіі людзі апавядаюць пра яго вясёлыя гісторыі.

Хаджа—па-турэцку значыць настаўнік, вучоны чалавек.

## ХАДЖА ЧАСТУЕ СВАЮ ШУБУ

Аднаго разу хаджу запрасілі на абед у багаты дом. З тае прычыны, што ён прышоў у дрэннай вопратцы, ніхто не звярнуў на яго ўвагі. Тады хаджа ціханька збегаў дамоў, добра адзеўся, накінуў зверху шубу і вярнуўся. Гаспадары з пашанай сустрэлі Наср-эд-Дзіна каля дзвярэй дома і пасадзілі за ганаровы стол. Гаспадар падсунуў да яго смачныя стравы і пачаў частаваць.

— Калі ласка, хаджа, частуйцеся!

Тут хаджа, падцягнуўшы шубу да талеркі, сказаў:

— Еш, шубка, цябе частуюць.

— Што ты робіш, хаджа?— здзівіліся госці.

— Калі гонар шубе, няхай шуба і есць!—сярдзіта адказаў хаджа.

## ХАДЖА РАТУЕ МЕСЯЦ

Аднойчы позна ўвечары хаджа Наср-эд-Дзін, выцягваючы вядро вады са студні, убачыў у вадзе адбітак месяца і парашыў, што гэта месяц упаў у студню. Каб выцягнуць месяц, ён хутчэй прывязаў да вяроўкі крук і спусціў яго ўніз. Выпадкова крук зачапіўся за камень, і, калі хаджа моцна тузануў за вяроўку, крук сарваўся, і Наср-эд-Дзін упаў на спіну. Пры гэтым ён глянуў уверх і ўбачыў месяц на небе.

— Ну, дзякуй богу,—уздыхнуў ён,—памучыўся я не мала, але затое месяц цяпер вярнуўся на сваё месца.

## ЯК ВЫРАТАВАЦЬ ТОНУЧАГА МУЛЛУ[1]

Аднаго разу ў вёсцы, дзе жыў хаджа Наср-эд-Дзін, было свята. Пасля вячэры ўсе мужчыны пайшлі да сажалкі, каб зрабіць амавенне.

Пакуль яны займаліся гэтай справай, здарылася бяда. Мулла гэтай вёскі, які быў разам з імі, паслізнуўся і ўпаў у сажалку.

— Давай руку! Давай руку!—закрычалі ўсе, жадаючы выцягнуць з вады муллу.

Аднак, мулла рукі сваёй не падаваў і пачаў ужо тануць.

— Адыйдзіце прэч,—сказаў хаджа Наср-эд-Дзін,—дзе вы бачылі муллу, які калі-небудзь што-небудзь каму-небудзь дае. Запомніце

[1] Мулла—духоўная асоба ў мусульман.

дурні, што муллы ніколі нічога не даюць, яны толькі бяруць. Вось глядзіце!

І, падышоўшы да муллы, хаджа закрычаў:

— Мулла, а мулла, вазьмі руку!

Мулла зараз-жа высунуў сваю руку з вады і падаў яе Наср-эд-Дзіну.

## ХТО БОЛЬШ ВЯЛІКІ

Наср-эд-Дзіна запыталі:

— Скажы, хаджа, хто больш вялікі: падзішах ці селянін?

— Недарэчнае пытанне,—адказаў Наср-эд-Дзін.—Вядома, селянін. Калі не дасць селянін хлеба—усе падзішахі[1] з голаду падохнуць.

[1] Падзішах—турэцкі цар.



## У полі

Як прыгожа ў полі ранняю вясною,
Калі крочыш сцежкай вузкаю адзін,—
Сонейка жар-птушкай ззяе над табою,
Ды смяецца неба шоўкавая сінь.

Навакол раўніна—і не змерыш вокам:
Жыта маладое бархатам ляжыць,
І жартуе ветрык у палях шырокіх,
Шэпчацца таемна, весела бяжыць.

На пясчанай горцы застылі хваінкі,
Застыла паветра чыстае, як лёд,
А ў блакітным небе белыя хмурынкі
Весела, бясшумна водзяць карагод.

Песенька, як срэбра, льецца над ракою,
Льецца над лугамі з сіняй вышыні.
Як прыгожа ў полі ранняю вясною,
Калі крочыш сцежкай між зялёных ніў.

**В. ЗМІТРЭНКА.**



# ВЫДАТНЫ ХЛОПЧЫК

*Апавяданне М. ЗОШЧАНКІ*

Жыў-быў у Ленінградзе маленькі хлопчык Паўлік.

У яго была мама. І быў тата. І была бабулька.

І, у дадатак, у іхняй кватэры жыў коцік па імені Бубенчык.

Вось раніцай тата пайшоў на работу. Мама таксама пайшла. А Паўлік астаўся з бабулькай.

А бабулька была вельмі старэнькая. І яна любіла ў крэсле спаць.

Вось тата пайшоў. І мама пайшла. Бабулька села ў крэсла. А Паўлік на падлозе пачаў забаўляцца са сваім коцікам. Ён хацеў, каб коцік хадзіў на задніх лапках. А коцік не хацеў. І мяўкаў.

Раптам на лесніцы пачуўся званок.

Бабулька і Паўлік пайшлі адчыняць дзверы. Гэта прышоў паштальён. Ён прынёс пісьмо.

Паўлік узяў пісьмо і сказаў:

— Я сам перадам татку.

Вось паштальён пайшоў. Паўлік зноў хацеў гуляць са сваім коцікам. І раптам бачыць—коціка нідзе няма.

Паўлік кажа бабульцы:

— Бабулька, вось дык штука—наш Бубенчык прапаў.

Бабулька кажа:

— Напэўна, Бубенчык пабег на лесніцу, калі мы адчынілі дзверы паштальёну.

Паўлік кажа:

— Не, гэта, мусіць, паштальён узяў майго Бубенчыка. Мусіць ён знарок нам даў пісьмо, а майго дрэсіраванага коціка ўзяў сабе. Гэта быў хітры паштальён.

Бабулька засмяялася і кажа:

— Заўтра паштальён прыдзе, мы вернем яму пісьмо, а нашага коціка возьмем у яго назад.

Вось бабулька села ў крэсла і заснула.

А Паўлік адзеў сваё паліто і шапачку, узяў пісьмо і ціхенька вышаў на лесніцу.

„Лепш,—думае,—я зараз аддам пісьмо паштальёну. І лепш я зараз забяру ў яго майго коціка“.

Вось Паўлік вышаў на двор. І бачыць—на дварэ няма паштальёна.

Паўлік вышаў на вуліцу. І пайшоў па вуліцы. І бачыць—на вуліцы таксама нідзе няма паштальёна.

Раптам якаясьці адна рыжая цётка кажа:

— Ах, паглядзіце ўсе—які маленькі хлопчык ідзе адзін па вуліцы. Напэўна ён згу-



біў сваю маму і заблудзіўся. Ах, паклічце хутчэй міліцыянера!

Вось прыходзіць міліцыянер са свістком, Цётка яму кажа:

— Паглядзіце, які хлопчык год пяці заблудзіўся.

Міліцыянер кажа:

— Гэты хлопчык трымае ў ручцы пісьмо. Напэўна, на гэтым пісьме напісаны адрас, дзе ён жыве. Мы прачытаем гэты адрас і даставім хлопчыка дамоў. Гэта добра, што ён узяў з сабой пісьмо.

Цётка кажа:

— У Амерыцы шмат якія бацькі знарок кладуць пісьмы ў кішэні сваім дзецям, каб яны не губляліся.

І з гэтымі словамі цётка хоча ўзяць пісьмо ад Паўліка.

Паўлік ей кажа:

— Што вы хвалюецеся. Я ведаю, дзе я жыву.

Цётка здзівілася, што хлопчык ёй так смела адказаў. І ад хвалявання ледзь у лужыну не ўпала.

Потым кажа:

— Паглядзіце, які бойкі хлопчык. Няхай ён нам тады адкажа, дзе ён жыве.

Паўлік адказвае:

— Вуліца Фантанка, восем.

Міліцыянер паглядзеў на пісьмо і кажа:

— Ого, гэта баявы хлопчык—ён ведае, дзе ён жыве.

Цётка кажа Паўліку:

— А як цябе завуць, і хто твой тата?

Паўлік кажа:

— Мой тата шофер. Мамка пайшла ў краму. Бабулька спіць у крэсле. А мяне завуць Паўлік.

Міліцыянер засмяяўся і сказаў:

— Гэта баявы, выдатны хлопчык—ён усё ведае. Напэўна, ён будзе начальнікам міліцыі, калі вырасце.

Цётка кажа міліцыянеру:

— Правядзіце гэтага хлопчыка дадому.

Міліцыянер кажа Паўліку:

— Ну, маленькі таварыш, пойдзем дадому.

Паўлік кажа міліцыянеру:

— Дайце вашу руку—я вас давяду да свайго дома. Вось мой чырвоны дом.

Тут міліцыянер засмяяўся. І рыжая цётка таксама засмяялася.

Міліцыянер сказаў:

— Гэта вельмі баявы, выдатны хлопчык. Мала таго, што ён усё ведае—ён яшчэ мяне хоча да свайго дома давесці. Гэты хлопчык канешне будзе начальнікам міліцыі.

Вось міліцыянер даў сваю руку Паўліку і яны пайшлі.

Толькі яны дайшлі да свайго дома—раптам мама ідзе.

Мама здзівілася, што Паўлік ідзе па вуліцы, узяла яго на рукі і прынесла дадому.

Дома яна на яго крыху пасварылася. Яна сказала:

— Ах, ты, нягодны хлопчык, нашто ты ўцёк на вуліцу?

Паўлік сказаў.

— Я хацеў у паштальёна ўзяць Бубенчыка. А то мой Бубенчык прапаў, і, напэўна, яго ўзяў паштальён.

Мама сказала:

— Што за глупства. Паштальёны ніколі не бяруць коцікаў. Твой Бубенчык сядзіць на шафе.

Паўлік кажа:

— Вось дык штука! Паглядзіце, куды ўскочыў мой дрэсіраваны коцік.

Мама кажа:

— Мусіць, ты, нягодны хлопчык, яго мучыў, вось ён і ўзабраўся на шафу.

Раптам прачнулася бабулька.

Бабулька, не ведаючы, што здарылася, кажа маме:

— Сёння Паўлік вельмі ціха і добра сябе трымаў. І нават мяне не разбудзіў. Трэба за гэта даць яму цукерку.



Мама кажа:

— Яму не цукерку трэба даць, а ў кут носам паставіць. Ён сёння ўцёк на вуліцу.

Бабка кажа:

— Вось дык штука.

Раптам прыходзіць татка. Татка хацеў разгневацца, чаго хлопчык уцёк на вуліцу. Але Паўлік падаў татку пісьмо.

Татка кажа:

— Гэта пісьмо не мне, а бабульцы.

Вось бабулька адзела акуляры на нос і стала чытаць пісьмо. Потым яна кажа:

— У горадзе Маскве ў маёй малодшай дачкі нарадзілася яшчэ адно дзіцё.

— Напэўна, нарадзіўся баявы хлопчык. І напэўна, ён будзе начальнікам міліцыі.

Тут усе засмяяліся і селі абедаць.

На першае быў суп з рысам. На другое— катлеты. На трэцяе быў кісель.

Коцік Бубенчык доўга глядзеў са сваёй шафы, як Паўлік есць. Потым не вытрымаў і таксама парашыў крыху паесці.

Ён скочыў з шафы на камоду, з камоды на крэсла, з крэсла на падлогу.

І тады Паўлік даў яму крыху супу і крышку кісялю.

І коцік быў вельмі задаволены.



# ДЗЕНЬ У ЛАГЕРЫ АКЦЯБРАТ

Узышло сонца і ўсе навокал адразу прачнулася. Закіпела жыццё: заспявалі птушкі на розныя галасы, пачаў сваю работу дзяцел.

Тук-тук-тук...—звонка разносіцца па лесе. Паляцелі ў розныя бакі пчолы збіраць салодкі мёд, конікі застракаталі, закружыліся стракозы, матылькі, недзе закукавала зязюля.

Ку-ку-ку-ку...—старанна выводзіць яна, нібыта вымаўляе: да-во-лі спаць...

У восем гадзін гарніст даў сігнал на пад'ём. Акцябраты хутка адзеліся і прыбеглі на фізкультурную пляцоўку, дзе Барыс Ісакавіч правёў з імі зарадку. Потым рэбяты ўзялі свае ручнікі і пабеглі мыцца.

— Хутчэй пусціце, я першы,—крычыць самы маленькі акцябронак Геня, размахваючы ручнікам. Ён спехам вычысціў зубы, намыліў твар і пачаў змываць мыла вадой.

— Ну, Воўка, мыла яшчэ засталося?—запытаў ён у таварыша.

— Мыйся лепш, вунь увесь твар у мыле,—смеючыся адказаў Воўка.

— Ну, а зараз мыла няма, праўда?—весела спытаў Геня, паласнуўшы пару разоў вадой на твар.

— Ёсць колькі хочаш, мыйся лепш, вунь за вухам цэлы камяк мыла і каля вока таксама.

— Ой баліць, у вочы зайшло,—закрычаў раптам Геня.

— У чым справа?—запытала падышоўшая важатая.

— Ды вось я мыюся, мыюся, а мыла ніяк не змыю,—ледзь не плачучы сказаў Геня. Тады Воўка нахіліўся да свайго таварыша і дапамог яму памыцца.

Праз некаторы час гарніст зноў даў сігнал і акцябраты ўміг пастроіліся на лінейцы. У цэнтры, каля трыбуны, дзяжурны па лагеру Сева прымае рапарты ад важатых груп аб гатоўнасці выканаць план дзённага задання.

Каманда—„смірна“! Напружаная цішыня. Грае гарніст. Лепшы акцябронак, Галя Нячаева, павольна ўзнімае на мачту чырвоны сцяг.

Пасля снедання рэбяты заняліся сваімі справамі. Група дзяўчатак і хлопчыкаў з важатай Верай пайшлі збіраць ягады. У лесе сыра. Раса яшчэ не паспела высахнуць і

жэмчугам блішчыць на траве і кустах. Маладыя ёлкі стаяць, развесіўшы зялёныя лапы, нібы птушкі крыллі, а стромкія сосны высока ўзнімаюцца ўгару. Сонца залоціць ігластыя верхавіны і, прабіваючыся праз галлё, лашчыць праменнямі кусцікі ягад і шырокія лісці папараці.

— А-у!.. А-у!..—перагукаюцца рэбяты.

— Сюды... ягаднае месца знайшоў...—апавяшчаў усіх Толік.

І сапраўды ў гэтым месцы было шмат кусцікаў чарніц, а на іх чорныя, спелыя ягады. Работа закіпела. Кожны хацеў першым напоўніць свой кошык. Праз некалькі гадзін, акцябраты вярталіся ў лагер вясёлыя і з чорнымі зубамі.

Юныя натуралісты таксама прышлі з багатай здабычай. У кожнага ў руках была або яшчарка або матыль. Іншыя прынеслі кветкі—люцікі, васількі, рамашкі. З насякомых і кветак рэбяты зробяць добрыя калекцыі.

Сабраўшыся, рэбяты мыюць рукі і ідуць абедаць, потым кладуцца спаць.

Пасля абедзенага адпачынку зноў шумна: звіняць вясёлыя дзіцячыя галасы, смех, жарты. Адны з рэбят танцуюць у клубе пад баян крыжачок, другія на спартыўнай пляцоўцы рыхтуюць к вечару самадзейнасці фізкультурныя нумары, трэція на паляне, у лесе, вывучаюць новую лагерную песню. Каля клуба, пад высокімі соснамі, займаецца рукадзельны гурток. Дзяўчаткі вышываюць рознакаляровымі ніткамі хустачкі, сурветкі... Некаторыя акцябраты гуляюць у кошку і мышку.

— Зіна, уцякай...

— Не пусцім ката...

— Ваня, даганяй мышку!.. Чаму ты бегаеш так марудна?—Тут толькі ўсе заўважылі, што Ванявы ногі абкручаны газетнай паперай і сандалі сталі яму цесныя.

— Навошта ты зрабіў гэтак?—запыталі дзеці ў хлопчыка.



— Гэта ён, мабыць, каб ногі не запэцкаць, бо іх мыць перад сном не хоча,—здагадаліся некаторыя рэбяты. Ваня засароміўся, адышоў далей і выкінуў з сандаляў паперу.

Непрыкметна ляціць час. Вось ужо і вячэра. Пасля вячэры зайграў гарніст. Акцябраты пастроіліся зноў на лінейцы. Каманда—„смірна“! Лепшы акцябронак апускае флаг. Рэбяты дружна пяюць „Інтэрнацыянал“. Лагер апаноўвае сонная цішыня.

— Іля!—паклікаў Абраша суседа па ложку. Я бачыў, як самалёт ляцеў нізка, нізка, а ў ім сядзеў дзядзя лётчык. Заўтра Вера раскажа нам пра пералёт адважных комсамолак.

**О. Мачарадзе.**

Гарадзішча,
Лагер імя Косарэва.

# СОНЕЙКА, ДОЖДЖ І СНЕГ

*(К А З К А)*

Заспрачаліся аднойчы снег з дажджом, хто з іх лепшы і карыснейшы для людзей.

— Я важней за цябе,—кажа снег:—я жыта і траўку ад марозу хаваю ды дарогу для саней высцілаю.

— Не, я—кажа дождж:—я зямельку паю ды расліны даглядаю: удзень сам паліваю, а ўночы расу пасылаю. Калі-б мяне не было, то і цябе ніхто не ўбачыў-бы.

— Дык я закідаю ўсю зямлю беллю пухавою,—зазлаваў снег.

— А я вадою залью,—засмяяўся дождж.

І насунуліся сівыя хмары, і пайшоў дождж. Гразі стала—ног не выцягнуць.

— Восень прышла,—сказалі людзі і распусцілі свае парасоны. Паспрабаваў снег сыпацца, але нічога не выходзіць,—яшчэ больш гразі стала.

Стаў тады снег прасіць мароза, каб той дапамог яму. І мароз згадзіўся.

Скаваў ён усю гразь; замарозіў лужыны і схаваў пад тоўстай карою лёду непакорную рэчку. І пасыпаўся тады белы мяккі снег, зраўняў поле, пабяліў стрэхі.

— Зіма прышла,—сказалі людзі і пачалі даставаць сані. А дзеці бегаюць, крычаць, кідаюцца снежкамі, лепяць бабу, ездзяць на лыжах.

Бачыць дождж, што справа дрэнь, і пачаў прасіць ён дапамогі ў яснага сонейка.

Засмяялася сонейка, ласкава засвяціла, прыгрэла сваімі залатымі праменнямі зямлю, і снег пачаў раставаць. Зазелянела поле, зазвінелі ручайкі. Пасінела і ўздулася рака. Лёд, нарэшце, не вытрымаў, трэснуў, і вялізныя крыгі, лезучы адна на другую, паплылі на хвалях.

— Вясна прышла,—сказалі людзі і пачалі папраўляць плугі ды бароны.

А дзеці бегаюць у падкасаных штоніках, спускаюць ваду, майструюць караблікі.

І так кожны год спрачаюцца снег з дажджом. Яшчэ і дагэтуль не паладзілі.

**А. КРОТ.**

# ПЕСНЯ НАД КАЛЫСКАЙ

Вечар. Лямпачка на сцены
Яркі свет кідае.
Над калыскай маці сыну
Песеньку спявае:

„Ой, над лесам, лесам-борам
Гусачкі ляцелі,—
Спі, сыночак мой маленькі,
На сваёй пасцелі.

Прабяжыць, як хмарка ў небе,
За гадком гадочак.
Падрасцеш, паразумнееш,
Любы мой сыночак.

Мы адправім цябе ў школу
Розуму набрацца.
На цябе твой тата з мамкай
Будуць любавацца.

Можа, станеш ты пілотам,
Можа, інжынерам,
Маляваць дамы, машыны
Будзеш на паперы.

Тады ўспомніш сваю мамку,
Як калісь люляла,
Над калыскай вечарамі
Песенькі спявала“.

**А. КРОТ.**

---

По тэхнічнаму недагляду няправільна надрукавана нумарацыя некаторых старонак: услед за стар. 8-ай павінна быць цыфра 9 і т. д. да стар. 21.

## ПЕРАПРАВА ЧЫРВОНААРМЕЙЦАЎ

Невялікі атрад чырвонаармейцаў падышоў да рэчкі, праз якую патрэбна было пераправіцца.

Маста няма, а рэчка глыбокая. Што рабіць? Начальнік атрада заўважыў на другім беразе двух хлопчыкаў, якія сядзелі ў маленькай лодцы і стаў прасіць іх пераплысці да іх. Хлопчыкі пераплылі. Але лодка была такая маленькая, што на ёй можа пераправіцца толькі адзін чырвонаармеец, ці два хлопчыкі. Аднак увесь атрад пераправіўся на гэтай лодцы.

Як-жа яны пераплылі?

### АДКАЗ

Хлопчыкі пераплылі на другі бераг. Адзін з іх застаўся на месцы, а другі падаў лодку чырвонаармейцам. Калі адзін чырвонаармеец пераплыў, хлопчык застаўшыся раней на беразе, адправіўся па свайго таварыша каб было каму пераправіць лодку назад. Такім чынам паступова пераправіліся ўсе чырвонаармейцы.

КОЛЯ АНАНЕВІЧ Талачынскі р-н.

## ГАЛАВАЛОМКА

Пастаўце ў гэтыя клеткі цыфры ад 1 да 9, так, каб у любым напрамку, па прамой лініі, у 3 клетках атрымлівалася 15. Лік ужываецца адзін раз.

ВЕЛЮГІН ТОЛЯ. Сенненскі р-н

| | | |
|---|---|---|
| | | |
| | | |
| | | |

## ЗАДАЧКА

Вазьмі 20 запалак і зрабі 7 квадратаў, Потым адымі 3 запалкі так, каб атрымалася 5 квадратаў.



## „ПІРАЖОК"

Дзеці становяцца вераніцай друг за другам, кожны кладзе рукі на плечы пярэдняга. Гэта—„печ". Пярэдні ігрок—„булачнік". Задні—„піражок". А „пакупнік" ні за кога не трымаецца, ходзіць адзін. Ён падыходзіць к булачніку: „Дзе мой піражок?". Булачнік: „Ён за печкай ляжыць". А піражок: „І бяжыць, і бяжыць..."

З гэтымі словамі „піражок" адчэплівaецца і ўбягае, імкнучыся стаць перад „булачнікам". Калі яму гэта ўдаецца, ён становіцца „булачнікам", „пакупнік" застаецца той-жа, і гульня пачынаецца зноў.

Калі „пакупнік" зловіць „піражок", то „піражок" становіцца „пакупнікам", а „пакупнік" сам—„булачнікам". „Печ" і „булачнік" могуць перасоўвацца, як удабней убягаючаму піражку, каб дапамагчы яму хутчэй стаць перад булачнікам. Разрываць ланцуг нельга.

ІСКРЫ ІЛЬІЧА

ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСВЕТЫ. ВЫДАВЕЦТВА „ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА"

ШТОМЕСЯЧНЫ ЖУРНАЛ ДЛЯ АКЦЯБРАТ І ВУЧНЯЎ МАЛОДШЫХ КЛАСАЎ

ЧЭРВЕНЬ—ЛІПЕНЬ 1938 г. № 6—7

ЦАНА 60 кап.

# НА ПРАГУЛЦЫ



Вышаў хлопчык пагуляць...



Раз,



два, тры,



чатыры,



пяць!



Дзесяць стрэмак застраміў ...



Хлопчык голасна завыў.



Ад такіх хлапцоў не раз
Вожык выратуе нас!

Рэдактар РЭДКАЛЕГІЯ    Афармленне Г. ІЗМАЙЛАВА    Адрас рэдакцыі: МЕНСК, ДОМ ДРУКУ.

Друкарня імя Сталіна, Менск.    20.000 экз.    Зак. № 3541.    Галоўлітбел 1802